АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

15 снежня 1999 года
Цана 40 000 рублёў

№ 50 (2660)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.


НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

## Васіль БЫКАЎ: «ЖЫЦЦЁ — ГЭТА ВЯЛІКАЕ ШЧАСЦЕ, ВЫШЭЙ ЗА ЯГО НІЧОГА БЫЦЬ НЕ МОЖА НА ЗЯМЛІ»

**— Васіль Уладзіміравіч, вам 75 гадоў. Гэта амаль біблейскі тэрмін у нашым месцы і ў наш час — я маю на ўвазе XX стагоддзе і Еўропу. У вас засталіся сябры-аднагодкі?**

— Ну, канешне, ёсць яшчэ пакуль што. Хаця, як вядома, тэрмін жыцця, або сярэдні ўзрост, увесь час падае, асабліва ў Беларусі — ужо, здаецца, мужчына жыве менш за 60. Але ўсё-такі яшчэ з тых часоў засталіся нейкія рэлікты, я маю на ўвазе перш за ўсё ў літаратуры. Вось, скажам, нядаўна ў Расеі шырока святкаваўся 75-гадовы юбілей Віктара Астаф'ева, трошкі раней — ветэрана і пісьменніка Рыгора Бакланава. Паміж імі — майго сябра, расейскага літаратураведа і крытыка Лазара Лазарава. Ну і ў Беларусі таксама ёсць, хаця натуральна, што гэты ўзрост — не толькі біблейскі тэрмін, але і біблейскі ўзрост.



**— Гэта якраз "франтавое пакаленне", тых, хто нарадзіўся ў 1923—1924 гадах, вярнуліся толькі трое з сотні...**

— Так, тры з сотні. Таму яны цяпер жывуць не толькі, відаць, за сябе, але і за тых, каму не выпала такой шчаслівай долі.

**— Вы ўсё ж лічыце, што гэта шчасце?**

— Жыццё — гэта самы вялікі Божы дар, гэта вялікае шчасце, натуральна, вышэй за яго нічога быць не можа на Зямлі.

**— А што ў вашым жыцці вам самому падаецца найбольш істотным, што давала вам найбольшае адчуванне шчасця?**

— Ну, я тут магу ўспомніць толькі адзін момант. Ён сапраўды памятаецца мне добра, і гэта сапраўды незвычайнае адчуванне, якога ні да таго, ні пасля таго не было. Можа быць, таму, што для мяне асабіста жыццё ўвогуле было маларадаснае. І гэта — Дзень Перамогі, як скончылася вайна, вось тыя нейкія два дні, 8 і 9 мая 1945 года. Тады я раптам адчуў пераход ад вайны да міру. Гэта было незвычайнае, нязведанае раней пачуццё ўзнёсласці, шчаслівасці, якога ўжо пасля перажываць не даводзілася.

**— Гэта было інтымнае пачуццё?**

— Амаль што інтымнае. Ну хаця, канешне, яно дастасавалася да пачуцця народаў Еўропы, Амерыкі — гэта была ўсеагульная эйфарыя, якая захапляла і кожнага асабіста.

**— А такія гістарычна значныя падзеі, на якія таксама рэагавала ўсё грамадства, — смерць Сталіна або правал путчу 1991 года — наколькі яны былі эмацыянальна важныя для вас?**

— Гэта таксама было важна, але параўнаць іх з Днём Перамогі немагчыма. Памятаю, я тады быў у войску, на Далёкім Усходзе, калі памёр Сталін. Натуральна, я, даведаўшыся, у думках сказаў нешта накшталт: "Слава Табе, Божа. Можа, цяпер што зменіцца". Але побач каля мяне былі мае сябры, якія зрабіліся вельмі пахмурнымі, а некаторыя нават плакалі. Так што тут радасць адносная — унутры сябе я прынамсі ведаў, што гэта так павінна быць і гэта да лепшага, я быў у гэтым упэўнены, але паколькі навокал не былі ў гэтым упэўненыя, то і мая радасць была няпоўная.

**— Скажыце, а якія былі вашыя "ўзаемаадносіны" са Сталіным падчас вайны?**

— Я думаю, што ніякіх. Абсалютна. Таму што я быў надта маленькі чалавек, каб ягоныя

**(Заканчэнне на 6-й, 7-й стар.).**

ВЕСТКІ З СУПОЛАК

## БЕЛАРУСКАЕ ЗЯМЛЯЦТВА ПАВОЛЖА

Сёлета ў самым сэрцы Паволжа створана саратаўская рэгіянальная грамадская арганізацыя — нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларускае зямляцтва Паволжа". Афіцыйнае пасведчанне аб рэгістрацыі аўтаноміі ўручыў губернатар вобласці Дзмітрый Аяцкаў на пасяджэнні Асамблеі народаў Саратаўскай вобласці ў Дзень незалежнасці Расіі, 12 чэрвеня.

Беларуская дыяспара ў вобласці не такая вялікая, як украінская ці нямецкая. Яна налічвае 17 тысяч этнічных беларусаў. Асноўныя месцы пражывання — гарады Саратаў, Энгельс, Балакова і Вольск. Міграцыйныя хвалі прыйшліся на перыяд буйных гістарычных дат XX стагоддзя. У 20-я гады насельніцтва Саратаўскай губерні ў цэлым, нягледзячы на сацыяльныя катастрофы, расло і складала па перапісу 1926 года 2 мільёны 891 тысячу чалавек. З іх у этнаграфічным складзе насельніцтва гарадоў губерні пражывала 708 беларусаў. У час голаду ў Паволжы спецыяльныя ўрачэбна-пажыўныя атрады з Беларусі выратавалі жыцці многіх саратаўцаў.

У гады Вялікай Айчыннай вайны 55 дзіцячых дамоў і прытулкаў Саратаўскай вобласці размясцілі ў сябе больш за 2 тысячы дзяцей-сірот, якіх вывезлі з розных рэгёнаў Беларусі. У вызваленні Беларусі ўдзельнічала 75 тысяч саратаўцаў, 25 тысяч з іх загінулі ў баях і пахаваны ў беларускай зямлі. У час вайны многія тысячы параненых беларусаў лячыліся ў шпіталях Саратава, але не ўсім удалося вярнуцца ў строй. З 8 тысяч памерлых ад ран і пахаваных у брацкіх магілах на Васкрасенскіх могілках кожны восьмы — з Беларусі.

Толькі ў 1964 годзе быў аднаўлены даваенны ўзровень насельніцтва Саратаўскай вобласці. У постперабудовачны перыяд сярод вымушаных перасяленцаў, зарэгістраваных у Саратаўскай вобласці, апынулася 205 беларусаў.

Паступова міграцыйны працэс перайшоў у дэмаграфічны, і волжскія берагі сталі для беларусаў-эмігрантаў другой Радзімай.

ФЕСТЫВАЛІ

**МАЙСТРЫ РЭКЛАМЫ З АГЕНЦТВА "КРЫНЬ".** У Маскве на 9-м Міжнародным фестывалі рэкламы, у якім прынялі ўдзел 17 краін, прызнання дабіліся беларускія майстры рэкламы. Беларусь па колькасці заваяваных узнагарод — 2 залатыя, 2 сярэбраныя і 7 бронзавых — заняла пачэснае трэцяе месца. Наперадзе толькі гаспадары фестывалю і спакушаныя ў рэкламнай справе італьянцы.

Самых высокіх эпітэтаў заслужылі творчыя знаходкі супрацоўнікаў мінскага рэкламнага агенцтва "Крынь". Адразу дзве іх працы былі адзначаны найвышэйшымі ўзнагародамі ў конкурсе друкаванай рэкламы ў намінацыі "Транспартныя сродкі і аўтасервіс". Абодва плакаты "Крыні" былі выраблены для вядомай французскай фірмы "Пежо". У іншых намінацыях прызёрамі сталі працы беларускіх агенцтваў і арганізацый: "Фортэ", "Белая Карона", "Праймеры", Радыё Бі-Эй, "Пінгвін" і ФІТ.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

**"БЕЛАРУСЬ" КАСТУСЯ ТАРАСАВА ВЫЙШЛА Ў СВЕТ**

**Убачыла свет найцікавейшае выданне — кніжка пра Беларусь, напісаная як захапляючае падарожжа па мінулых стагоддзях. Яе аўтар — вядомы беларускі пісьменнік Кастусь Тарасаў. Па сутнасці, атрымалася папулярная, пазбаўленая палітызацыі чытанка-альбом пра далёкія падзеі, архітэктуру, побыт і традыцыі беларусаў.**

**Ілюстравалі кнігу некалькі мастакоў, якія зрабілі для яе 112 старонак арыгінальных малюнкаў.**

**Чытайце пра Беларусь, пазнавайце яе, любіце.**

**Па пытаннях набыцця кнігі звяртайцеся ў выдавецтва "Лекцыя" (тэлефон 239-15-32).**

БРЭСТЧЫНА СВЯТКУЕ ЮБІЛЕЙ

З афіцыйнага прыёму дэлегацый усіх абласцей рэспублікі, горада Мінска, Валынскай вобласці Украіны, рэспубліканскіх міністэрстваў і ведамстваў, якія прыбылі ў горад над Бугам, прадстаўнікоў дыпламатычных місій Расіі, Украіны і Польшчы пачаліся 4 снежня асноўныя ўрачыстасці, прысвечаныя 60-годдзю ўтварэння Брэсцкай вобласці. Кіраўнік абласной адміністрацыі Уладзімір Заламай цёпла вітаў гасцей.

А госці гаварылі не толькі добрыя словы, але і ўручалі вобласці-юбілярцы свае сувеніры і падарункі. Напрыклад, старшыня Мінскага гарвыканкама Уладзімір Ярмошын перадаў брэсцкаму губернатару ключы ад пяці новенькіх трактароў. Адбылося і ўрачыстае ўручэнне высокіх дзяржаўных узнагарод лепшым працаўнікам вобласці. Па даручэнню кіраўніка дзяржавы Сяргей Лінг уручыў Ганаровы дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь.



## СПОРТ

**ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА.** На чэмпіянаце свету ў Афінах разам з медалямі былі разыграны пуцёўкі ў алімпійскі Сідней. Вынік выступлення беларускіх цяжкаатлетаў — 15-е агульнакаманднае месца і 5 ліцэнзій на Алімпіяду. У асноўную групу змаглі прабіцца толькі два спартсмены — Г. Аляшчук і С. Лаўрэнаў, якія занялі шостыя месцы.

**ФРЫСТАЙЛ.** Фрыстайліст Аляксей Грышын на двух апошніх этапах Кубка свету ў Аўстраліі двойчы быў першым. Зараз ён рыхтуецца да новых стартаў, якія пройдуць у ЗША і Канадзе. Наперадзе — зімняя Алімпіяда. На ёй беларускі спартсмен плануе прадэманстраваць складаны скачок — трайное сальта з пяццю вінтамі.

**АКРАБАТЫКА.** Наймацнейшыя акрабаты свету паказалі сваё майстэрства ў бельгійскім гарадку Гент. Гонар нашай краіны абаранялі мужчынскі квартэт з Віцебска ў складзе Уладзіміра Малюціна, Дзяніса Маскаленкі, Руслана Залецкага, Аляксея Буйнякова і дуэт з Гомеля. Удача ўсміхнулася віцяблянам: дзве бронзавыя ўзнагароды. Мужчынская пара гамяльчан у складзе Аляксея Любезнага і Анатоля Баравікова ў мнагаборстве заняла пачэснае 7-е месца.

**Каця МАЗАКОВА.**

## ЗДАРЭННІ

# УРАГАН З АТЛАНТЫКІ

Перш чым дабрацца да Беларусі, цыклон, які зарадзіўся над Атлантыкай, нанёс значныя страты Брытанскім астравам, Нарвегіі, краінам Балтыйскага рэгіёна.

Крыху стрымаўшы па дарозе свой запал, цыклон усё ж такі і для нашай краіны прыпас некалькі непрыемных гадзін. У найбольш пацярпелай сярод рэгіёнаў рэспублікі Мінскай вобласці пад удар стыхіі папалі ўсе 22 раёны.

Па даных Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, хуткасць штармавога ветру ў асобныя моманты перавышала 30 метраў у секунду.

Асноўныя разбурэнні былі нанесены лініям электраперадач. У 69 раёнах без току засталіся 1 582 населеныя пункты, 271 жывёлагадоўчая ферма, адключаны 3 233 трансфарматарныя падстанцыі.

Вецер Атлантыкі будзе гуляць па краіне яшчэ тыдзень.

**Ірына ГАЙ.**

## ФУТБОЛ

# СЯРГЕЙ БАРОЎСКІ ВЯРТАЕЦЦА Ў ЗБОРНУЮ

Адбылося пасяджэнне выканкама Беларускай федэрацыі футбола, на якім зацверджаны галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Беларусі. Ім стаў 43-гадовы Сяргей Бароўскі.

Гэта другі прыход С. Бароўскага ў галоўную каманду краіны. У 1994—1996 гадах яму ўжо даводзілася ўзначальваць нацыянальную зборную. У той час беларуская каманда, у якой амаль не было міжнароднага вопыту, здолела заняць у сваёй групе чацвёртае месца. Тады зборная атрымала самую гучную пакуль перамогу ў сваёй гісторыі, абыграўшы ў 1995 годзе зборную Галандыі.

Пасля адстаўкі Сяргей Бароўскі працаваў з латвійскім "Вентспілсам" і тыраспальскім "Шэрыфам", з якім выйграў кубак Малдовы. У кастрычніку гэтага года, калі беларуская зборная засталася без трэнера, Бароўскаму прапанавалі ўзначаліць каманду на адну гульню ў якасці выконваючага абавязкі, на што ён адказаў згодай. Сустрэча са славутымі італьянцамі завяршылася нулявой нічыёй. Гэта паслужыла аргументам у вяртанні Бароўскага ў зборную.

Ужо сёння шмат балельшчыкаў ускладаюць надзеі на яго прыход. Ды і сам Бароўскі гаворыць, што ставіць толькі максімальную задачу — змагацца за выхад у фінальны турнір сусветнага першынства.

Пажадаем яму ў гэтым поспехаў.

**Павел САМЕЦ.**

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# З ЧЫМ ГУЛЯЮЦЬ ДЗЕЦІ?



**Я ў дзяцінстве не мела прыгожых цацак: былі толькі нейкія карычневыя, шэрыя мішкі і зайцы. Калі ж скардзілася на іх, такіх няяркіх і нязграбных, мая мама, якая расла ў першыя пасляваенныя гады, казала, што гуляла з лялькай, зробленай з палена і загорнутай у хустку. З тых часоў прайшло паўстагоддзя. На паліцах магазінаў цацак шмат. Але ці карысныя яны, ці развіваюць дзяцей!**

У Беларусі працуе Цэнтр гульні і цацкі, які сумесна з Міністэрствам адукацыі і Рэспубліканскай камісіяй па гульні займаецца цацкай на дзяржаўным узроўні.

Па словах старшыні Рэспубліканскай камісіі па гульні Тамары Карасцянёвай, высновы камісіі пакуль маюць рэкамендацыйны характар. Міністэрства адукацыі падрыхтавала пералік неабходнага ігравога матэрыялу і накіравала спіс усім старшыням аблвыканкамаў, знайшло вытворцу неабходнай прадукцыі. Справа за фінансаваннем.

Кожная цацка, што прадаецца легальна, праходзіць экспертызу ў Белстандарце. Галоўнае патрабаванне да яе — бяспечнасць. Неабходная і псіхолага-педагагічная ацэнка цацак. Сёння гэта вельмі сур'ёзная праблема. У Мінску, напрыклад, у кожным камерцыйным кіёску прадаецца замежная забава — "тамагочы". На думку спецыялістаў, яна разбуральна ўздзейнічае на дзіцячую псіхіку. Таму своечасовай здаецца распрацоўка праекта закона аб гульні і цаццы. Плануецца, што ён прадугледзіць абавязковую псіхолага-педагагічную ацэнку цацкі і падтрымае адпаведную прамысловасць.

Самым буйным вытворцам цацак на Беларусі з'яўляецца адкрытае акцыянернае таварыства "Актамір", якое мае пяць фабрык у розных гарадах Беларусі. Узначальвае "Актамір" Аляксандр Купрэеў. Да яго мы і звярнуліся з некалькімі пытаннямі.

— Аляксандр Сяргеевіч, ці ўсе разумеюць, што цацкі маюць велізарнае значэнне ў жыцці дзіцяці?

— Вельмі важна, каб гэта разумелі на дзяржаўным узроўні. Сёння цацка адносіцца да сацыяльна значных тавараў народнага спажывання. Кошт яе рэгулюецца дзяржавай.

У выніку цана на цацку стрымліваецца на ўнутраным рынку, але яе вывозяць за мяжу (у прыватнасці, у Расію) і прадаюць па значна вышэйшых цэнах. Зразумела, што той, хто зарабляе на створанай сітуацыі, ніколі не будзе зацікаўлены перагледзець яе. Свежы прыклад. Гомельская база спажыўкааперацыі ў верасні набыла прадукцыі фабрыкі мяккай цацкі на 10 мільярдаў рублёў. Большасць цацак вывезена за межы рэспублікі. Падобнае адбываецца і ў Мінску. Пры гэтым прадпрыемства-вытворца выціскаецца з замежнага рынку, не атрымлівае валюту, якая патрэбна яму для закупкі сыравіны.

— Ведаю, у Баранавічах ёсць фабрыка драўлянай цацкі...

— У свой час там наладзілі вытворчасць "набораў Мантэсоры". Сістэма гульняў Марыі Мантэсоры прызнана ў свеце як адна з лепшых. Яна выкарыстоўваецца, у прыватнасці, у працы з дзецьмі, якія маюць асаблівасці ў разумовым развіцці. "Наборы Мантэсоры" разлічаны на дашкольныя ўстановы, якія, дарэчы, сёлета на набыццё такіх гульняў не атрымалі сродкаў. Такім чынам, нашы вырабы не купляюцца. Прадпрыемства спыніла вытворчасць часткі прадукцыі. У Міністэрстве адукацыі разумеюць неабходнасць вышэйназванай прадукцыі, але грошай не маюць.

Фабрыка ж вымушана пераарыентавацца на выпуск мэблі. Заўтра зноў вярнуцца да цацкі будзе цяжка, бо гэта азначае на хаду перабудоўваць вытворчасць.

— Як мне здаецца, асартымент беларускай цацкі недастатковы. На рынку прысутнічае танная, але не заўсёды якасная прадукцыя з Тайваня, Кітая. Мала добрых радыёкіруемых цацак. Кітайскія, тайваньскія вырабы карыстаюцца попытам, бо яны недарагія. Але гэта прадукцыя, як гаворыцца, "аднаразовая". Ці можна сцвярджаць, што цацкі, з якімі гуляюць дзеці, — адлюстраванне ўзроўню жыцця?

— Так. Яны часта вымушаны гуляць з няякаснымі падробкамі, што прадаюцца на кірмашах і якія часцей за ўсё ніхто не правярае. Ды і не дзіва: камісіі для ацэнкі, каб вызначыць, ці бяспечная цацка, ці адпавядае яна гігіенічным патрабаванням, неабходна 3 экземпляры прадукцыі, якія ўжо не вяртаюцца да прадаўца ці вытворцы. Дробны гандаль не вытрымае такіх страт.

— Якая галоўная праблема ў вытворчасці цацак на Беларусі?

— Не існуе вытворчасці, якая б працавала на нашу галіну. Тую ж тканіну для лялечных сукенак даводзіцца набываць на звычайнай тэкстыльнай фабрыцы, хаця ляльку можна апрануць у яркую прыгожую сукенку са значна больш таннага матэрыялу.

— Калі ўжо мы загаварылі пра лялькі, заўважу: нейкія яны ў нас аднолькавыя...

— Тут ёсць свае аспекты. Папершае, на Беларусі не рыхтуюць мастакоў — стваральнікаў лялек. Так што са спецыялістамі праблема. Лялькі, якія размаўляюць, як і машынкі з аўтаматычным і радыёкіраваннем, у нас не вырабляюць, бо набываць механізмы для іх на прадпрыемствах *электроннай* прамысловасці вельмі дорага. Сёння сама лялька больш танная, чым механізм для яе ажыўлення. Можна наладзіць вытворчасць, якая б працавала на цацку. Але яе аб'ёмы будуць невялікімі, адсюль нерэнтабельнасць. Калі ж павялічыць выпуск прадукцыі, яна не будзе запатрабаванай. Такім чынам, пакуль захаваецца існуючая сітуацыя, прыйдзецца адмовіцца ад выпуску некаторых цацак. Што тычыцца нацыянальнай беларускай лялькі, збіраемся з дапамогай Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі наладзіць выпуск сувенірнай беларускай лялькі.

**Алена СПАСЮК.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ЧАРНОБЫЛЬСКІ ДЗЁННІК АРСЕНА САКУНА



# ЛІК НА КАРЫСЦЬ РЭНТГЕНА




...Крута павярнула лёс тысяч людзей чарнобыльская аварыя. Пакутным стала жыццё дома, на Бацькаўшчыне, маркотным на новым месцы жыхарства для многіх перасеrange. І тых, і другіх усё больш адольваюць разнастайныя размовы пра радыяцыйнае ўздзеянне. З кожным годам менш і менш становіцца кампетэнтнай інфармацыі ў афіцыяльных крыніцах па гэтых праблемах. А матэрыялы, якія друкуюцца, у асноўным сенсацыйнага характару — пра разнастайныя злоўжыванні ў размеркаванні гуманітарнай замежнай дапамогі, адрасаванай чарнобыльцам, пуцёвак для аздараўлення, сродкаў пад так званыя праграмы ліквідацыі вынікаў аварыі, факты будаўніцтва катэджаў для чыноўнікаў за чарнобыльскія грошы і г. д. На бядзе такога вялікага маштабу сталі нажывацца рознага роду дзялкі, нячыстыя на руку людзі. Дзе ўжо тут да пацярпелых ад чарнобыльскай аварыі, калі столькі стала пацярпелых ад грамадскай неўладкаванасці. Урад заклікае народ да цярпення і згоды, радыкальныя грамадскія рухі імкнуцца вывесці яго ўсёй грамадою на плошчы, не маўчаць, а дабівацца адстаўкі ўрада, новых выбараў. Каго слухаць, за кім ісці, які выбар зрабіць, калі ніводзін з бакоў не бачыць выйсця з такога глыбокага крызісу?..

* * *

...Кожная сустрэча з пацярпелымі ад чарнобыльскай катастрофы, незалежна ад таго, дзе яна адбываецца, усё больш пераконвае, што абвешчаная сацыяльная абарона гэтай катэгорыі асоб слабее ў сэнсе гарантый, хаця, па логіцы, павінна мацнець ва ўмовах станаўлення дзяржаўнасці. Пакуль жа наша самастойнасць толькі балюча б'е па тых, хто называецца народам.

А там пад радыяцыйным уздзеяннем працягваюць жыць і працаваць нашы землякі, суседзі, суайчыннікі. Яны вымушаны заставацца там, бо хтосьці ўжо адхапіў ад прызначанага некалі для іх, ад гарантаванага ім. Жывуць людзі і ў вёсцы Дубровіца Хойніцкага раёна, дзе практычна нельга жыць. Суседнія вёскі — Амелькаўшчына і Рашаў — адсялілі, а малочнатаварныя фермы захавалі: трымаюць кароў, выпасваюць іх на забруджанай радыенуклідамі зямлі, за дзесяткі кіламетраў возяць туды даглядчыкаў і даярак, атрымліваюць малако і харчуюцца ім.

А колькі такіх Дубровіц на тэрыторыі нашай краіны! Іх насельнікі проста ў безнадзейным становішчы, ім больш няма на што спадзявацца ў сэнсе свайго адсялення і таго, што хтосьці ў хуткай будучыні ці больш аддаленым часе паклапоціцца пра іх. А сённяшняе жыццё такое ж бядотнае, як і пакалення палешукоў з рамана Івана Мележа "Людзі на балоце". Толькі яно крута прыпраўлена ядзернай пошасцю. Яна густа ўслала і глінішчанскія мясціны — радзіму народнага пісьменніка рэспублікі. Горкімі дарогамі лёсу і адсюль пайшлі многія — хто па стану здароўя, хто па сваёй волі. Усё менш і менш на радзіму Івана Мележа ў музей пісьменніка прыязджае наведвальнікаў, хаця землякі свята захоўваюць яго памяць. Вялікую справу ў падтрыманні культурнай спадчыны жыхароў рэгіёна робіць беларускі паэт, ураджэнец Хойніцкага раёна Мікола Мятліцкі. Ягоны паэтычны зборнік "Палескі смутак" цалкам пра чарнобыльскую бяду, людзей, якія пацярпелі ад яе. Розныя часіны жыцця палешукоў адлюстраваны ў творах празаіка і паэта. Але з'яднаны яны цяжкімі і трагічнымі момантамі іх лёсу. Ён кожнаму пакаленню палешукоў прызначыў столькі пакутнага, гаротнага, што міжволі задумваешся: за што такая няўдзячнасць працавітаму, шчыраму і добраму, таленавітаму паляшуцкаму люду? Дзесяцігоддзямі выбіраўся ён з балотнай багны, шчыраваў, адваёўваючы кожную пядзю яе, акультурваў гектар за гектарам. А сёння радыяцыйны попел густа ўслаў палітую потам зямлю-карміцельку, на дзесяцігоддзі чарнобыльскае ліха адняло яе ў клапатлівых гаспадароў.

Разрываюць душу і сэрца радыяцыя і сумныя думкі пра тое, як выжыць у яе жорсткіх умовах і ўмовах рынкавай стыхіі...

**Пасля чарнобыльскай катастрофы адчуваецца праблема медыцынскіх кадраў у Брагінскім раёне. Хаця б гадоў назад і быў створаны Гомельскі медыцынскі інстытут — "кузня кадраў" для раёнаў, што пацярпелі ад Чарнобыля, затрымліваюцца спецыялісты тут нядоўга. З тых, хто прыбыў сюды па размеркаванню, сумленна адпрацавалі па тры гады толькі Андрэй Палякоў — тэрапеўт і эндакрынолаг, які скончыў Мінскі мэдінстытут, і Валерый Сінянскі — загадчык хірургічнага аддзялення, што вучыўся ў ВНУ горада Віцебска.**

**Не задавальняе патрабаванні раёна і бальніца, уведзеная ў эксплуатацыю ў год аварыі. Новы корпус на 200 ложкаў з гінекалагічным, радзільным і хірургічным аддзяленнямі неяк пабудавалі, а вось абсталяваць не спяшаюцца.**

**НА ЗДЫМКАХ: новы хірургічны корпус чакае фінансавых ін'екцый; маладыя спецыялісты Андрэй ПАЛЯКОЎ і Валерый СІНЯНСКІ са сваім настаўнікам — намеснікам галоўнага ўрача па абслугоўванню насельніцтва Анатолем КУЧУНОМ.** **Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**



## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### УКРАІНА

Дваццаць восьмага кастрычніка бягучага года Украіна адзначыла 55 гадоў з дня вызвалення сваёй тэрыторыі ад гітлераўскіх захопнікаў. У баях прымалі ўдзел і беларусы. Сярод іх Герой Савецкага Саюза, палкоўнік у адстаўцы Уладзімір Кірмановіч. Ён браў удзел у бітвах за Мелітопаль, вызваляў Крым.

Пятага лістапада Уладзіміру Мікалаевічу споўнілася 80 гадоў. Нарадзіўся ён у горадзе Кобрыне Брэсцкай вобласці ў мнагадзетнай сям'і рабочага. Пасля заканчэння сямігодкі працаваў сталяром. У 1940 годзе быў прызваны ў Савецкую Армію.

24 сакавіка 1945 года У. Кірмановічу прысвоена званне Героя Савецкага Саюза за баі пры вызваленні Латвіі. Потым прымаў удзел у вызваленні Румыніі, Венгрыі, Аўстрыі.

Акрамя Залатой Зоркі Героя, ён узнагароджаны ордэнамі Леніна, Чырвонага Сцяга, Аляксандра Неўскага, Айчыннай вайны І-й і ІІ-й ступеняў, трыма ордэнамі Чырвонай Зоркі, медалём "За баявыя заслугі" і яшчэ 12-ю іншымі медалямі.

У сувязі з 55-й гадавінай вызвалення Украіны ад гітлераўскіх захопнікаў Указам Прэзідэнта Украіны Уладзімір Мікалаевіч узнагароджаны ордэнам Багдана Хмяльніцкага ІІІ-й ступені і юбілейным медалём.

У. Кірмановіч трапіў на Украіну пасля заканчэння ў 1955 годзе Ваеннай акадэміі імя М. Фрунзе ў Маскве. Ён атрымаў накіраванне ў Харкаўскае вышэйшае ваеннае авіяцыйнае вучылішча. Быў намеснікам начальніка вучылішча па страявой падрыхтоўцы, выкладаў на кафедры тактыкі.

58 гадоў у страі з армейскімі пагонамі на плячах — такі жыццёвы шлях прайшоў наш герой.

Расказ пра У. Кірмановіча будзе няпоўным, калі не сказаць пра аднаго з самых блізкіх для яго людзей — жонку Еўдакію Іванаўну. З 1946 года яна знаходзіцца поплеч з ім. Усе радасці і непрыемнасці яны дзеляць разам. Еўдакія Іванаўна і Уладзімір Мікалаевіч выгадавалі і выхавалі двух дзяцей — сына і дачку. Ёсць у іх ужо і праўнучка Каця, якую яны вельмі любяць.

У апошнія гады Уладзімір Мікалаевіч не мае магчымасці бываць у сваім родным Кобрыне. Але ён часта з гордасцю ўспамінае пра сваіх землякоў. Любоў да нашай роднай Беларусі захоўваецца ў яго сэрцы многія гады. Уладзімір Мікалаевіч, як і ўсе мы, пастаянна цікавіцца падзеямі, што адбываюцца на Радзіме.

**В. АСТАПОВІЧ, намеснік старшыні праўлення харкаўскага рэгіянальнага нацыянальна-культурнага таварыства беларусаў "Белая Русь".**

### ЛАТВІЯ

Дзеці Беларускай нядзельнай школы разам з настаўніцай Таццянай Бучэль, а таксама вучні школ Даўгаўпілскага раёна, якія прымалі ўдзел у конкурсе сачыненняў па беларускай мове, пабывалі ў турыстычнай паездцы па сталіцы Беларусі. Яны наведалі Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і быту і зрабілі аўтобусную экскурсію па Мінску. Дырэктар парку імя Горкага пазнаёміў экскурсантаў з паркам, даў магчымасць дзецям не толькі пакатацца на ўсіх атракцыёнах, але і зрабіць невялікую вандроўку на кацеры па рацэ Свіслач.

Каб гэта паездка адбылася і была больш змястоўнай, пастараліся беларускае таварыства "Уздым", Цэнтр беларускай культуры і Генеральнае консульства Беларусі ў Даўгаўпілсе. Дырэктар Даўгаўпілскага аўтапарка Аўрамій Міхайлаў забяспечыў бясплатны праезд. Дапамогу ў арганізацыі гэтай паездкі аказалі Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі і Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

## НА КАРЦЕ РАДЗІМЫ



*22 кастрычніка 1939 года, дзень выбараў у Народны Сход Заходняй Беларусі ў Пружанах.*



*Першай прыняла на сябе ўдар ворага 22 чэрвеня 1941 года Брэсцкая крэпасць.*

# БРЭСТЧЫНА СВЯТКУЕ ЮБІЛЕЙ

**ШТО Ж УЯЎЛЯЕ САБОЙ СЁННЯШНЯЯ БРЭСТЧЫНА! БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ МАЕ ШМАТ ВЫКЛЮЧНЫХ АСАБЛІВАСЦЕЙ. І МІМАВОЛІ АДЧУВАЕШ ЦЯЖКАСЦЬ: ШТО ПАСТАВІЦЬ ПА ЗНАЧНАСЦІ НА ПЕРШАЕ МЕСЦА — БАГАТАЕ ГІСТАРЫЧНАЕ МІНУЛАЕ, ПРЫРОДУ, ПОМНІКІ КУЛЬТУРЫ ЦІ ЭКАНАМІЧНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ.**

Пачнём храналагічна — з гісторыі. У старажытнасці гэты край насялялі славянскія плямёны дрыгавічоў і драўлян, якія валодалі высокай па тых часах культурай і вялі шырокі гандаль з суседнімі плямёнамі.

Паводле адной з легенд, запісаных беларускім падарожнікам, этнографам і гісторыкам XIX стагоддзя П. Шпілеўскім, у старажытныя часы багаты купец, праязджаючы з таварам, папаў у багну. Замасціўшы дрыгву бярозавымі бярвёнамі, купец выратаваўся. І як успамін аб гэтым паратунку пабудаваў капліцу і назваў гэта месца Бярэсцем. Вярнуўшыся, ён узвёў тут са сваёй дружынай паселішча.

Так гэта было ці інакш — зараз не праверыць, але дакладна вядома, што першае летапіснае ўпамінанне пра Бярэсце ў "Аповесці мінулых гадоў" значыцца пад 1019 годам. Горад неаднаразова пераходзіў з рук у рукі, належаў то тураўскім, то кіеўскім, то ўладзімір-валынскім князям, абрабоўваўся, руйнаваўся, але, дзякуючы выключнаму геаграфічнаму становішчу, аднаўляўся і рос.

Свая радаслоўная і ў іншых гарадоў вобласці. Камянец, Кобрын упершыню называюцца ў пісьмовых крыніцах XII — XIII стагоддзяў, Іванава, Драгічын, Пружаны, Бяроза — у XV, Івацэвічы, Ляхавічы, Лунінец — у XVI. Не выпадкова Брэстчына адрозніваецца вялікай колькасцю помнікаў архітэктуры. Цяжка ўявіць сённяшні Брэст без Свята-Мікалаеўскага ці Сімяонаўскага сабораў, Пінск — без манастыра францысканцаў, Варварынскай царквы, касцёла, калегіума езуітаў, Баранавічы — без Пакроўскага сабора, Камянец — без знакамітай вежы ці, скажам, Ружаны — без рэштак старажытнага замка князёў Сапегаў.



*Лётчык-касманаўт СССР Пётр КЛІМУК сярод сваіх зямлякоў — жыхароў вёскі Камароўка. Справа — яго маці Марфа Паўлаўна.*

Шмат славутага і горкага выпала на долю жыхароў гэтай багатай на падзеі зямлі. У пачатку бягучага стагоддзя ў час першай сусветнай вайны вобласць была акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, а ў 1921-м згодна з Рыжскім дагаворам адышла да Польшчы. Яшчэ цэлыя 18 год карэнныя жыхары заставаліся чужымі на роднай зямлі, пакуль у верасні 1939 года не адбылося аб'яднанне Заходняй Беларусі з БССР.

А потым была жорсткая вайна з гітлераўскай Германіяй, у першыя дні якой шагнуў у бессмяротнасць маленькі гарнізон Брэсцкай крэпасці. Праз трыццаць год, у 1971-м, тут адбылося адкрыццё мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой", якая стала візітнай карткай абласнога цэнтра.

Сёння Брэсцкая вобласць — рэгіён з высокім эканамічным, сацыяльным і культурным патэнцыялам. Далёка за яе межамі вядомыя брэсцкія дываны, газавыя пліты, верхні трыкатаж, панчошна-шкарпэтачныя вырабы, мэбля, станкапрылады, будаўнічыя матэрыялы.

Транзітны калідор Берлін — Варшава — Брэст — Мінск — Масква, разгалінаваная сетка чыгуначных і аўтамабільных дарог дазваляюць хутка здзяйсняць перавозку пасажыраў і грузаў. Абласны цэнтр мае міжнародны аэрапорт 1-й катэгорыі з узлётна-пасадачнай паласой даўжынёй 2 600 метраў, што дазваляе прымаць і абслугоўваць цяжкія самалёты. Па тэрыторыі вобласці праходзяць нафта- і газаправоды. Адбываецца станаўленне свабоднай эканамічнай зоны "Брэст".

Сельскагаспадарчыя прадпрыемствы маюць высокі патэнцыял для развіцця мясной і малочнай жывёлагадоўлі, бульбаводства, займаюцца вырошчваннем гародніны, цукровых буракоў, ільну-даўгунцу.

Суб'екты гаспадарання вобласці супрацоўнічаюць з 11 краінамі СНД і 76 краінамі далёкага замежжа. І калі ў блізкім замежжы ў якасці знешнеэканамічнага партнёра пераважае Расія (актыўнае супрацоўніцтва вядзецца з 46 расійскімі абласцямі і гарадамі), то сярод краін далёкага замежжа найбольш сур'ёзным партнёрам юбіляркі выступае Германія.

Вобласць мае тры ВНУ, у якіх навучаюцца 12,9 тысячы студэнтаў. Брэсцкія дзяржаўны універсітэт і політэхнічны інстытут супрацоўнічаюць з шэрагам вядучых навучальных устаноў Еўропы.

Гордасць краю — Нацыянальны дзяржаўны парк "Белавежская пушча", які рашэннем ААН занесены ў спіс сусветнай спадчыны. А непазбыўны боль Брэстчыны — участкі радыеактыўнага забруджвання, выкліканага чарнобыльскай бядой, у Лунінецкім, Пінскім і Столінскім раёнах.



*Танныя і зручныя дамы для сялян будуюць у вёсцы Вейская Камянецкага раёна.*



*Калгасніца Марыя ШЫШ з Антопальскага раёна выпраўляе сваіх сыноў у партызанскі атрад.*



*Купалы Свята-Мікалаеўскай царквы ў Брэсце.*

Слава і соль любой зямлі — людзі, што там жывуць. З брэсцкіх мясцін выйшлі першы двойчы Герой Савецкага Саюза С. Грыцавец, першы беларускі касманаўт двойчы Герой Савецкага Саюза П. Клімук, двойчы Героі Сацыялістычнай Працы В. Ралько і У. Бядуля, першы Герой Беларусі В. Карват. З гонарам прыгадваюцца так ці інакш звязаныя з брэсцкімі краямі Адам Міцкевіч, Напалеон Орда, Казімір Лышчынскі, Тадэвуш Касцюшка, Міхаіл Агінскі і іншыя вядомыя дзеячы мінулых гадоў.

**Васіль САРЫЧАЎ.**
**Фота БелТА.**

**НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ**

# Васіль БЫКАЎ: «ЖЫЦЦЁ – ГЭТА ВЯЛІКАЕ ШЧАСЦЕ, ВЫШЭЙ ЗА ЯГО НІЧОГА БЫЦЬ НЕ МОЖА НА ЗЯМЛІ»

ўчынкі, жыццё нейкім чынам уплывалі на мяне. На мяне ўплывалі куды больш празаічныя людзі — блізкія да мяне начальнікі і, канешне, вораг. Ад іх залежалі мой лёс і маё жыццё кожную секунду, кожны дзень. А што там Сталін... Я скажу, што — я пра гэта пісаў — ягонае значэнне раздзьмулі пасля вайны, у рамках эйфарыі перамогі. А ў часе вайны — ну былі, канешне, загады Сталіна, узнагароды, усё такое, а як ён камандаваў там — пра гэта мы на фронце мала што ведалі і мала што адчувалі. Нават у мяне дагэтуль ёсць такое адчуванне, што ў вайсковых справах ён быў абсалютны прафан, хоць і стараўся вучыцца і чаму-нічаму навучыўся ад генералаў, што стаялі бліжэй да яго.

**— Васіль Уладзіміравіч, вам ужо на год болей, чым пратрываў СССР. Ці вы спадзяваліся калі-небудзь, каб так магло стацца — што не вы будзеце часткай савецкай гісторыі, а сама савецкая дзяржава будзе толькі часткай вашай асабістай біяграфіі?**

— Прызнацца шчыра, я ніколі на гэта не спадзяваўся. Я лічыў, што гэтая імперыя пабудавана на многія дзесяцігоддзі, хаця, канешне, я не жадаў ёй удачы, шчасця і даўгалецця, але, мяркуючы па тым, што мы перажывалі, чаму былі сведкамі, нельга было ніяк прадбачыць яе такога хуткага развалу. Відаць, нейкія працэсы, незаўважныя, можа быць, для простага чалавечага вока, чалавечага розуму, адбываліся ўнутры, працэсы, якія раптам выбухнулі, як брызантная граната. Значыць, гэтае ўнутранае, спантаннае напружанне было вельмі вялікае, але знешне яно не выяўлялася.

**— Вы кажаце, што не жадалі дабра гэтай сістэме. А калі асабіста вам стала яснай прырода гэтай з'явы, яе нялюдскасць?**

— Як ні дзіўна, гэта для мяне стала ясна вельмі і вельмі рана, яшчэ ў школьным, дзіцячым узросце. Я жыў ва Усходняй Беларусі, каля Ушач. Я, канешне, быў далёкі ад палітыкі і нічога не ведаў пра беларускую інтэлігенцыю — гэта адбывалася ў вялікіх гарадах. Тым не менш да мяне, да маіх эмоцыяў, да майго розуму даходзіла перш за ўсё тое, што адбывалася ў маёй вёсцы, а таксама ў мястэчку, у маёй школе, калі арыштоўвалі маіх настаўнікаў і знішчалі. Дырэктара, памятаю, пасадзілі, які мне некалі яшчэ гамашы купіў, бо я быў босы... Ну і таксама калектывізацыя. Але яшчэ больш за ўсё — гэта галеча і голад, таму што як толькі адбылася калектывізацыя, пачаўся голад...

**— А вы самі галадалі?**

— Натуральна, кожны год.

**— А што ў вас было дома?**

— Што дома было? Была карова, яна ратавала. Але, зноў жа, трэба было здаць — і малако, і мяса, і масла, і яйкі, і яшчэ пазыкі розныя. Таму, скажам, было цяжка вучыцца, бо, напрыклад, недзе ў канцы 30-х гадоў перасталі даваць падручнікі, трэба было купляць, а на падручнікі грошай не было — бо апроч падаткаў, страхоўкі, яшчэ былі пазыкі.

**— А што для вас было самым смачным пачастункам у дзяцінстве?**

— Ну, тыя прысмакі, якія звычайна бываюць у сялянскай хаце — малако, тварог, смятана...

**— А з крамы было што-небудзь у хаце?**

— Нічога абсалютна. Што магло быць з крамы?! Гэта цяпер сяляне ідуць у краму па хлеб там ці што яшчэ. А ў той час у крамах нічога не было, сялянства было на самазабеспячэнні. А яшчэ гэтае сялянства забяспечвала горад.

**— А калі вы ўпершыню пакаштавалі цукеркі ці шакалад?**

— Шакалад я пакаштаваў упершыню на вайне. Гэта быў трафейны шакалад, нямецкі. А цукеркі былі ў сельмагу — "падушачкі", 40 капеек за сто грамаў. Але ж 40 капеек...

**— Пытанне пра літаратуру. Што такое ўвогуле, на вашу думку, літаратура, у чым для вас яе сэнс?**

— Некалі — яшчэ гадоў, можа, дзесяць таму — я сказаў бы вельмі проста: у літаратуры вялікая і вельмі важная місія. Але цяпер, як вядома, нашыя "грамацеі" — не толькі нашыя, але і заходнія — дайшлі да той думкі, што як у жыцці няма ніякага сэнсу, таксама няма сэнсу і ў літаратуры. Літаратура — гэта проста, кажучы па-руску, "досужее времяпровождение", забава на ўікэнд і не больш за тое. Я ўсё ж думаю, што гэта не так. Можа быць, літаратура цяпер і сапраўды страчвае свой сэнс і сваё значэнне, але некалі яна значыла вельмі шмат — недзе з часоў Асветніцтва, з XVIII стагоддзя, а можа і яшчэ раней, з часоў, калі менавіта літаратура была сродкам пашырэння хрысціянства. Я думаю, што літаратура ў той час значыла вельмі шмат, найперш у сэнсе выхавання хрысціянскай маральнасці. Пасля яе значэнне змянілася, канешне, не ўся яна існавала пад нейкім дадатным знакам. Выкарыстоўвалі яе і злыя антычалавечыя сілы.

**— А калі вы самі ўпершыню адкрылі Біблію, і якое месца ў вашым жыцці займала і займае гэтая кніга?**

— Я не скажу, што яна займае ў маім жыцці вялікае месца, таму, відаць, што я ўсё ж яе адкрыў позна. Мы адкрылі яе недзе на пачатку 60-х гадоў, будучы ў Рыме. Мы пайшлі там з сябрамі ў бок плошчы Святога Пятра і зайшлі ў адну крамку з рэлігійнымі таварамі. Мы спыталіся, ці можна ў іх купіць Біблію. Натуральна, Бібліі ў іх былі, але па-лацінску, на нейкіх іншых мовах, а нам трэба было хоць бы па-расейску... І вось адзін служка пайшоў, недзе пашукаў і нарэшце прынёс Біблію на ўкраінскай мове. Вось гэтая Біблія на ўкраінскай мове была першая, якую я прачытаў.

**— Раней у вас нават не было магчымасці здабыць гэтую кнігу?**

— Так, не было. Праўда, пасля мне падаравалі — ужо ў Мінску — Біблію на расейскай мове, як я зразумеў, яна была з таго "біблейскага запасу", які наша мытня рэгулярна выгружала ў турыстаў, што ехалі з Захаду. Вось так кнігі часам траплялі замест вогнішча ці макулатуры "ў людзі".

**— А што вы разгортваеце часцей — Новы ці Стары Запавет?**

— Я думаю, што ўсё-такі Новы Запавет: там шмат важнага, і трэба гэта ведаць. Іншая справа, раз мы ўжо закранулі гэтую тэму, калі нарэшце стала магчымым далучыцца да такога багацця. Працэс гэты запазніўся. Як заўсёды, мы спазняемся. Быў нейкі перапынак, калі рэлігійная традыцыя разарвалася, і цяпер робяцца намаганні аднавіць, рэстаўрыраваць рэлігію ў жыцці нашага грамадства, але я думаю, што гэта вельмі складана і незваротна. Відаць, рэлігія — такая справа, якая не церпіць нейкага разрыву. А ў нашай гісторыі разрыў быў даволі вялікі, і наступнае пакаленне ўжо не мае традыцыі рэлігійнага выхавання, як бы іх ні прымушалі або ні заахвочвалі да царквы ці да касцёла — наўрад ці яны туды пойдуць, я маю на ўвазе моладзь.

**— Васіль Уладзіміравіч, часам пра літаратараў гавораць — і шмат хто з гэтым пагаджаецца, — што пісьменнік усё жыццё піша фактычна адну кнігу. Наколькі вы пагаджаецеся з гэтым поглядам на ўласным досведзе?**

— Я ўсё ж думаю, што гэты пастулат вельмі адносны. Калі пісьменнік сапраўды доўга працуе, шмат піша, то ён не можа пісаць адну кнігу. Ён проста фізічна не можа, і ў эстэтычным плане таксама, і ў ідэйным. Бо, як вядома, чалавек усё-такі мяняецца, і ягоныя перакананні зменлівыя, і час дзейнічае па-рознаму. Таму было б нават жахліва, калі б ён быў такі ўпарты і трымаўся за нешта адно, як сляпы за плот...

**— Ну, вы якраз і сам падаяце прыклад таго, што за адно не трымаецеся. Сёння гавораць пра новага Быкава, згадаем тут хоць бы прыпавесці — "Сьцяна", "Музыка", "Тры словы нямых" ды іншыя, што гучалі на радыё "Свабода". Чым вас вабіць даволі нямодны, напаўзабыты жанр прыпавесці? Ці не кампраміс гэта паміж мастацтвам і публіцыстыкай?**

— Наогул так, можа быць, гэты жанр і нямодны, але, мне здаецца, ён вельмі ёмісты. Я не ведаю, якім чынам — я нават не стараюся ўсвядоміць ягоную тэхналогію — проста некаторыя рэчы, якія мне здаюцца цікавымі або, можа быць, не апрацаванымі ў літаратуры, найлепшым чынам выкладаюцца менавіта ў гэтым жанры. Бо жанр гэты лаканічны і вельмі ёмісты. Ну, можа, гэтыя лаканічнасць і ёмістасць характэрныя і пэўнаму ўзросту. Малады чалавек больш схільны да эпікі, а ў маім узросце хочацца нечага канкрэтнага, ёмістага і паглыбленага. Я не хачу тут праводзіць якіх-небудзь паралеляў, але ўспомнім хоць бы Талстога, які напрыканцы жыцця быў не супраць казкі, прыпавесці — лаканічных і ёмістых жанраў і лаканічнага стылю.

**— А што для вас з напісанага найбольш дарагое сёння? Ці гэта кожнага разу нешта рознае?**

— Такое пытанне задаюць звычайна даволі часта. Я скажу, што я проста пра гэта не думаў. Нейкую няўдалую рэч я мог бы назваць, але з эгаістычных меркаванняў не буду гэта рабіць. А што самае дарагое — я не ведаю. Звычайна, калі пішаш — дык тое, што пішаш, і ёсць самае дарагое. Але калі напішаш, вельмі хутка прыходзіць ацверажэнне, і бачыш хібы новага твора.

**— Вы кажаце: "Прыходзіць ацверажэнне". Ці азначае гэта, што ў працэсе пісання чалавек знаходзіцца ў іншым стане, крыху апантаны?**

— Я не скажу, што пішу ў апантаным стане, але ўсё-такі і галава перш за ўсё занятая праблематыкай, вобразнай сістэмай — тым, над чым працуеш.

**— А зараз пытанне пра тэхналогію, пра сакрэты пісання. Для вас, калі вы пішаце, важны гук, повязь паміж словамі, рытм фразы — ці вы больш задумваецеся над іншымі катэгорыямі?**

— Рытм фразы — важная справа не толькі для паэзіі, але і для прозы. Ёсць пэўны рытм, які вымагае свайго стаўлення да слова...

**— Ён дыктуе сэнс?**

— Сэнс?

**— Так, нават развіццё сюжэта — з тых фразаў, што вы пішаце, з тых сітуацый вынікае для вас нешта нечаканае? Яны дыктуюць?**

— Я не сказаў бы. Рытм дыктуе вобразную сістэму ў межах абзаца. Вось абзац мае нейкую сваю заканамернасць, прадвызначанасць, і калі, скажам, абзац пачаўся з нейкай думкі, дык на нейкай проціллегласці ён павінен і закончыцца. Звычайна гэта ідзе паводле схемы "так — так, але — але". Хаця тут могуць быць розныя варыянты.

**— У вас шмат якія творы пачынаюцца, я б сказаў, з музычнай фразы, што задае танальнасць твору. Першая фраза вашых твораў бывае вельмі складаная і вельмі невыпадковая.**

— Так, першая фраза вельмі важная. Ну, гэта звычайна, пра гэта, памятаю, некалі пісаў і Бунін, і іншыя пісьменнікі. Канешне, яна настройвае, таму вельмі важна выбраць танальнасць першай фразы ў адпаведнасці з ідэяй усяго твора.

**— А першая фраза сапраўды пішацца першаю, ці яна часам з'яўляецца пасля?**

— Не, звычайна я над ёю думаю даўжэй, чым над іншымі, і яна павінна з'явіцца першай. Калі яна няўдала з'явіцца, то прыходзіцца пасля перарабляць. Бо яна ж вызначае ўсё наступнае.

**— Пытанне пра мову. Ваш блізкі сябар Алесь Адамовіч пісаў і па-беларуску, і па-расейску, ваш знаёмы Чынгіз Айтматаў — толькі па-расейску, вы — толькі па-беларуску. Чаму?**

— Ну, я скажу, што толькі пабеларуску я пішу прозу. Публіцыстыку, артыкулы — я многа напісаў і на расейскай мове. Чаму так? Перш за ўсё гэта элементарна проста. Па-першае, я беларус, мая родная мова — беларуская. І хоць я ў юнацтве, у маладыя гады не жыў у Беларусі і не чуў беларускага слова — 15 гадоў, у вайну і пасля вайны, — тым не менш, калі я пачаў займацца літаратурай, была пэўная праблема — на якой мове пісаць. Але праблема вельмі хутка вырашылася. Я зразумеў — і думаю, што, дай Бог, гэта было правільна, і, на шчасце, я зразумеў рана — што толькі родная мова можа найлепшым чынам паслужыць у гэтым сэнсе ў літаратуры. Расейская мова — яна, канешне, багатая, выдатным чынам распрацаваная ў літаратуры, але ўсё ж беларусу яна не такая паслухмяная, як родная. Гэта зразумела і натуральна. Таму, калі я пачынаў у літаратуры, мне нават не давялося перавучвацца. Нейкім чынам гэтая родная мая беларуская мова легла вельмі лёгка на маю душу, хаця я шмат гадоў ёю не карыстаўся, і ўсё пайшло натуральным чынам.

**— Вы самі перакладаеце свае тэксты. Скажыце, чаму? Вы не можаце знайсці добрага перакладчыка?**

— Так, менавіта так. Як ні дзіўна, расейскія людзі — не толькі літаратары — кажуць, што яны выдатна разумеюць беларускую мову, і гэта ўвогуле правільна, зразумець яе лёгка. Але вось перакладчыкаў — не толькі ў мяне — не ведаю, у каго яны яшчэ ёсць з беларускіх літаратараў, я маю на ўвазе расейскіх перакладчыкаў... Некалі я карыстаўся паслугамі — звычайна гэта былі беларусы, якія жылі ў Маскве і ведалі абедзве мовы, напрыклад, Міхаіл Васільевіч Гарбачоў, мой першы перакладчык. І тым не менш гэтыя пераклады былі, мякка кажучы, недастатковыя, і я быў вымушаны ўзяцца за справу сам, бо проста тыя перакладчыкі, да каго я яшчэ звяртаўся, яны ўсе — не скажу, што рабілі дрэнныя пераклады, — але іх пераклады мяне не задавальнялі. Хоць я можа й сам раблю іх недастатковымі на расейскую мову, гэта напэўна так, я гэта адчуваю. Але я перакананы, што ў мяне атрымліваецца лепш.



**— Ведаеце, тое, што вы гаворыце, пацвярджаецца практыкай. Пераклады ў 30-я гады былі вельмі папулярным спосабам выжывання для вядомых расейскіх паэтаў. І вось з беларускай яны ўзяліся перакладаць літаральна па адным вершы — ёсць адзін верш у перакладзе Ахматавай, адзін верш у перакладзе Цвятаевай, адзін у перакладзе Пастэрнака, адзін — Таркоўскага. І ўсё. Паспрабавалі і далей не пайшлі, нешта ім беларуская мова не давалася.**

— Яна і не можа давацца. Гэта яшчэ Бунін некалі пісаў, што перакладаць з блізкіх моваў вельмі цяжка, амаль немагчыма. Гэтая лёгкасць ілюзорная. Здаецца, што ўсё зразумела, а на самай справе тут ёсць нейкі эзатэрычны сэнс, нейкія таемныя праблемы, якія пры такой знешняй блізкасці робяць дзве мовы несумяшчальнымі.

**— Вы амаль дзесяць гадоў устрымліваліся ад публічнага абмеркавання праблемы беларускага правапісу, дыскусіяў на тэму "тарашкевіцы" і "наркомаўкі". Ваш зборнік "Сьцяна" выйшаў на тарашкевіцы, і свае новыя тэксты, наколькі я ведаю, вы таксама адразу пішаце на тарашкевіцы. Гэта ваш адказ?**

— Я пішу на тарашкевіцы таму, што яны друкуюцца і чытаюцца на "Свабодзе" ў гэтым правапісе. Хаця я скажу, што натуральна ўнутрана, як аўтар, я ўсёй душою за гэта, тарашкевіца — правапіс куды болей беларускі, ён адпавядае беларускаму моўнаму менталітэту больш, чым наркомаўка, гэта безумоўна так. І ўсё ж я лічу, што з пераходам на тарашкевіцу ў нас паспяшаліся. Цяпер не той час, бо ёсць вельмі вялікая небяспека таго, што мы, беларусы, можам наогул застацца без нармальнай агульнапрынятай граматыкі.

**— Вам належыць фраза-прысуд: "Беларусы спазніліся на свой цягнік". Гэта вы сказалі ўжо**



**даволі даўно. Як вы глядзіце на сітуацыю сёння?**

— Ну, я гляджу, што так яно і ёсць. Жыццё, на жаль, пацвярджае, што спазненне гэтае — не толькі факт, які адбыўся, гэтае спазненне ўсё ўзмацняецца гісторыяй.

**— Вяртаючыся да літаратуры: калі гаварыць пра ваш спіс для чытання, хто з пісьменнікаў мае для вас большае значэнне! Чым вызначаецца вашае кола чытання сёння!**

— Сёння нават цяжка сказаць. Сёння я чытаю выпадкова, галоўным чынам, часопісную літаратуру — беларускія і расейскія часопісы, тут ёсць такая магчымасць, у Фінляндыі, — у Беларусі не было. Як вядома, там цяпер поўны ералаш — асабліва ў расейскай літаратуры — дзе ёсць усё: і добрыя творы, і постмадэрнізм, які я не магу прыняць, хаця ў пэўных адносінах, што да майстэрства — нічога не скажаш, сучасныя пісьменнікі пішуць проста выдатна. Тут, у Фінляндыі, я хачу трошкі пазнаёміцца і з фінскай літаратурай, якая ў нас абсалютна невядомая. Натуральна, што гэта можна зрабіць толькі ў перакладах — з таго нямногага, што перакладзена на расейскую мову, а таксама і на беларускую. Напрыклад, наш перакладчык Якуб Лапатка пераклаў два раманы Пэнці Ханпяэ, яны выйшлі ў свой час у "Мастацкай літаратуры". Таксама я нядаўна прачытаў вялікі раман пра мінулую вайну Вяйнэ Ліна "Невядомы салдат". Яшчэ штосьці Юхана Рунэбэрга, аўтара іхняга нацыянальнага гімна. Збіраюся прачытаць лаўрэата Нобелеўскай прэміі 1939 года празаіка Ганса Сіланпяэ пра грамадзянскую вайну.

**— Васіль Уладзіміравіч, вы ўжо год пражылі за мяжой. Як ацэньваеце творчыя вынікі гэтага года!**

— Трэба лепш і больш. Я вельмі напружана папрацаваў лета, восень і зіму, а вясной мой імпэт трошкі знізіўся — па некаторых прычынах, якія маюць дачыненне не да літаратуры, а хутчэй да палітыкі.

**— Дык, нягледзячы на тое, што "ўзяты" вы былі "ад роднай хаты", гэта не паўплывала на вашую працаздольнасць?**

— Не, наадварот! Пісьменніку што патрэбна? Чысты аркуш паперы і ціхі куток. Якраз папера тут ёсць, нават камп'ютэр з'явіўся, і ціхі куток забяспечаны, хаця мая кватэра над піўным барам — літаральна пада мной, пад маёй лоджыяй піўны бар. Але — што значыць фінская нацыянальнасць — у гэтым бары на тратуары стаяць столікі, там заўсёды сядзяць людзі з півам і п'юць, але я ніякага гоману не адчуваю. Пра нешта яны паціху размаўляюць, а то звычайна сядзяць моўчкі і цягнуць сваё піва.

**— І як фінскае піва?**

— Піва фінскае, канешне, саступае чэшскаму і нямецкаму, еўрапейскаму наогул. Горшае піва. Але лепшае, чым беларускае. А самае галоўнае, што там не ведаюць гэтых самых піўных катастрофаў, якія здараюцца ў постсавецкіх краінах.

**— У гэтай сувязі, ці змяніліся або ўдакладніліся вашыя погляды на з'яву эміграцыі і эміграцыі для пісьменніка! Наколькі гэты стан катастрафічны, ці, можа быць, гэта не ўплывае на творчасць?**

— Я б сказаў, што гэты стан не катастрафічны, хоць у кожнага свой канкрэтны выпадак. Але ўсётакі я скажу, што, паводле закона Божага і чалавечага, трэба жыць дома. Шкада, што не заўсёды і не ўсім выпадае такое шчасце. Але ў залежнасці ад таго, які дом. Бывае так, што эміграцыя — гэта шчасце, гэта паратунак. Хоць, канешне, у ідэале паратункам і шчасцем павінен быць дом, Радзіма, Бацькаўшчына.

**Інтэрв'ю браў**
**Аляксандр ЛУКАШУК.**
**(Беларуская служба радыё "Свабода").**

Фота І. ПАЎЛАВА, Ю. БОНДАРАВА.

АСОБЫ ЗАМЕЖЖА

# Валянціна ПІСКУНОВА



**Валянціна Піскунова (28.03.1948, вёска Рудня-Целяшоўская Гомельскага раёна) — прэзідэнт Асацыяцыі беларусаў-прадпрымальнікаў Латвіі "Беларускі шлях", дырэктар фірмы "Ільгюцыемс", беларускі грамадскі дзеяч.**

У 1963 годзе скончыла Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту (факультэт "Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва"). Атрымала спецыяльнасць інжынера-будаўніка. Накіравана на работу ў Латвію. Займала розныя пасады — ад майстра да намесніка кіраўніка буйнейшага ў рэспубліцы Рыжскага трэста буйнапанельнага домабудавання. Пасля яго рэарганізацыі пераведзена на пасаду намесніка начальніка Упраўлення капітальнага будаўніцтва дзяржзабеспячэння Латвіі.

В. Піскунова паралельна сумяшчала службовыя абавязкі з шырокай грамадскай дзейнасцю. На працягу дзесяці гадоў была дэпутатам Ленінградскага райсавета Рыгі. Многім дапамагла яна атрымаць кватэры, працаўладкавацца, вырашала пенсійныя справы, клапацілася аб уладкаванні дзяцей у дашкольныя ўстановы. Праз некаторы час ёй быў аказаны давер узначаліць камісію народных дэпутатаў па архітэктуры і будаўніцтву. У тым, што раён Задзвіння — адзін з найпрыгажэйшых у латвійскай сталіцы, немалая заслуга старшыні названай камісіі.

Цяпер В. Піскунова працуе дырэктарам фірмы "Ільгюцыемс", а ў чэрвені 1996 года абрана прэзідэнтам асацыяцыі беларусаў-прадпрымальнікаў Латвіі "Беларускі шлях". Яна знаходзілася ля вытокаў стварэння беларускіх таварыстваў "Світанак", "Прамень". Ініцыятар і арганізатар стварэння газеты беларусаў Латвіі "Прамень".

В. Піскунова — намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны "Прамень", член Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Аказвае значную дапамогу развіццю беларускай культуры ў Латвіі, фінансуе газету "Прамень". Ініцыятар стварэння культурнага камерцыйна-інфармацыйнага цэнтра. Шануе беларускую мову, беларускія традыцыі, карыстаецца вялікай павагай сярод сваіх суайчыннікаў.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

У апошні дзень кастрычніка ў Таронта прайшоў 37-мы з'езд Згуртавання беларусаў Канады. У справаздачы за мінулыя два гады было адзначана, што Згуртаванне апынулася ў нялёгкім стане: 16 траўня бягучага года памёр шматгадовы старшыня арганізацыі Мікола Ганько, першы намеснік старшыні Раман Кардонскі выехаў на працу ў Злучаныя Штаты, а другі намеснік Раман Лацянкоў вярнуўся ў Беларусь. Дзякуючы Надзеі Дробінай, якая часова выконвала абавязкі старшыні згуртавання, арганізацыя не спыніла сваёй дзейнасці. Быў аднаўлены інфармацыйны бюлетэнь ІНФА ЗБК, праводзіліся культурныя мерапрыемствы, накіраваныя на тое, каб пазнаёміць новых эмігрантаў з беларускай грамадскай дзейнасцю і прыцягнуць новых сяброў.

Такім чынам, калі на пасаду старшыні згуртавання прапанавалі трох кандыдатаў, то двое аддалі свае галасы на карысць Надзеі Дробінай, і яна была абрана большасцю галасоў. З'езд разгледзеў і іншыя важныя арганізацыйныя пытанні. Былі зачытаны прывітанні ад Васіля Быкава, ад "Беларускай Перспектывы" з Мінска, ад аддзела БАЗА ў Новай Англіі.

**"Весткі й Паведамленьні".**

НАТАТКІ З НАГОДЫ

# І ЗНОЎ ЖАЛОБНЫЯ ВЕСТКІ З АЎСТРАЛІІ

Зусім нядаўна ў нашай газеце друкаваліся словы развітання з Надзеяй Грушай, слаўнай беларускай з Мельбурна, як зноў з гэтага далёкага аўстралійскага горада начной парою развярэдзіла душу вестка пра яшчэ адну балючую страту — памёр Уладзімір Сідлярэвіч, ці не апошні магіканін — прадстаўнік старой беларускай гвардыі на аўстралійскай зямлі, да апошняй крывінкі і ўздыху адданы нацыянальнай ідэі.

Нарадзіўся Уладзімір Сідлярэвіч пад Баранавічамі, а яго характар у маладым узросце гартаваўся ў агмені нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, якім беларусы так годна заявілі аб сваім спрадвечным праве быць гаспадарамі, а не пад'ярэмнымі парабкамі на сваёй зямлі. У 1939 годзе, як вядома, Заходняя Беларусь злучылася з Усходняй, і такім чынам мара народа жыць не распалавіненым, а разам здзейснілася. Але дыхнула, як з разяўленай пашчы дракона, гарачым подыхам масавых рэпрэсій, сталінскіх ГУЛАГаў, страхам перад калгасамі, у якія трэба было аддаваць нажытае і заставацца без трывалага для селяніна грунту пад нагамі, значыць, цалкам залежным ад чужой волі і прыхамаці. А потым пачалася-пагрукацела на ўсход вайна, прыйшлі на зямлю новыя гаспадары са сваёй мовай, сваімі звычаямі і парадкамі, з якімі, хочаш ці не, а трэба было неяк ужывацца.

Стаўленне да тых, хто апынуўся на акупіраванай тэрыторыі, імкнуўся ў тых нечалавечых умовах заставацца чалавекам і ратаваць ад згубы іншых, сёння ў нас іншае, чым у пасляваенны час, калі родная Бацькаўшчына станавілася злой мачахай нават у дачыненні да сваіх верных дачок і сыноў. І яны змушаны былі, ратуючыся ад небыцця ці ГУЛАГаў, падавацца ў белы свет. Сярод іншых быў і Уладзімір Сідлярэвіч. Блуканні па Еўропе, потым шматдзённая вандроўка караблём у далёкую і невядомую Аўстралію, дзе напачатку не толькі не было, як казалі колісь у іхняй вёсцы, "на два бокі здорам ападак мазаных", але ні кала, ні двара. Але былі змалку прызвычаеныя да працы мазольныя рукі, была галава на плячах, была (душа ў душу!) сяброўка жыцця і адчуванне братняга локця з усім беларускім пабрацімствам. Гэта ратавала ад самоты і настальгіі.



*У гэтай беларускай праваслаўнай царкве (настаяцель айцец Кулакоўскі) адпявалі У. Сідлярэвіча.*

Вестку аб развале "імперыі зла" беларусы Аўстраліі, мо як нідзе, успрынялі ўсхвалявана і радасна, бо вынікам такога развалу іх запаветная мара бачыць Беларусь свабоднай і незалежнай краінай станавілася рэальнасцю.

А ў сэрцы зноў абуджалася, вярэдзіла памяць успамінамі аб родным і блізкім туга. Яе спатоліў тых, хто трапіў на Першы з'езд беларусаў свету, дзе ўпершыню за шматвяковую гісторыю сабраліся суродзічы з розных краін і кантынентаў. Колькі пасля вяртання было размоў пра ўбачанае і пачутае і колькі добрай зайздрасці ў тых, хто не здолеў трапіць на той прадстаўнічы форум. І, пераадольваючы асцярогу і набытую гадамі нямоглась, выбіраліся, але ўжо не гуртам, а паасобку нашы суродзічы ў няблізкі свет. Чатыры гады назад наведаў радзіму і Уладзімір Сідлярэвіч. Усяго было — і шчымлівага, са слязой бласлаённай спаткання з краем маленства і маладосці, з да непазнавальнасці зменёнымі часам аднагодкамі. Самыя розныя пачуцці завалодалі ім: і радасць, і трывога, і роспач за Бацькаўшчыну, якая імкнецца, ды ніяк не можа акрыяць ад шматвяковага здранцвення і прыніжанасці.

Так сталася, што ў сужэнстве Сідлярэвічаў сваіх дзяцей не было. Таму мо з такой шчырасцю і гасціннасцю ў сваім утульным дамку прывячалі ўсіх, хто па прыездзе ў Мельбурн трапляў да іх. І мне там таксама было добра, амаль як у роднай хаце. А параў спыніцца ў Сідлярэвічаў на той час самы блізкі ў Аўстраліі чалавек Мікола Сазановіч, зямляк (мае Пабрэззе з яго Сланевам праз горку), па гасціннаму запрашэнню якога я і трапіў на той далёкі кантынент. Мікола жыў у Якарандзе, непадалёку ад Сіднея і вельмі далёка ад Мельбурна, бо адлегласці ў Аўстраліі — рэч самавітая. Жыў, можна сказаць, асобна ад іншых беларусаў, бо ў тым надзвычай сімпатычным, чыстым і зялёным гарадку на беразе акіяна яны чамусьці не атабарыліся. Але душэўная повязь у Міколы з землякамі была моцная — раней, калі праводзіліся агульнааўстралійскія беларускія з'езды, Мікола заўжды быў іх актыўным удзельнікам разам са сваёй Марысяй —



*Аўтар з Міколам Сазановічам на беразе акіяна.*

па нацыянальнасці немкай, але і беларускай адначасова. Бо пражылі яны з Міколам душа ў душу, так згодна і з'ядна, што ўяўлялі штосьці гарманічна цэлае, як архэі-спарышы. Разам і на Беларусі пабылі некалькі разоў, і свет аб'ехалі ўздоўж і папярок, як вялікія ахвотнікі падарожжаў і спазнання новага, дзівосаў жыцця. Апошні раз на радзіме былі падчас Першага з'езда беларусаў свету, тады ж удзельнічалі і ў наладжанай мною вандроўцы па родным краі. Былі мы і на забавах, бо абое яны, у якіх за плячыма па сем дзесяткаў гадоў, мелі наўздзіў маладыя душы і спрытныя, паслухмяныя ў рухах цела, асабліва з улікам таго, што Мікола некалькі гадоў назад перанёс няпростую аперацыю на сэрцы. Але медыкі зрабілі цуд. Ён уключыўся ў звыклы жыццёвы рытм — праца за мальбертам,

(Заканчэнне на 8-й стар.).

ГІСТОРЫЯ КАХАННЯ

# «МЫ ШЧАСЛІВЫЯ, ШТО ЗНАЙШЛІ АДЗІН АДНАГО»

А пачалося ўсё вельмі проста — з мімалётнага знаёмства. У 1952 годзе Зоя Васільеўна заканчвала тэатральны інстытут у Мінску. Яе сяброўка з Гродна расказала, што ў мясцовым тэатры ёсць вельмі цікавы малады артыст — школа МХАТа! — Юрый Сідараў. І аднойчы, у час выпадковай кароткай сустрэчы за кулісамі, пазнаёміла Зою з ім. Юрый тады не спадабаўся дзяўчыне, а ён яе запомніў. Вось як Юрый Уладзіміравіч апісвае сваю першую сустрэчу з жанчынай, якая стала яго лёсам: "Яна мяне адразу ўразіла. Я адчуў у ёй нейкую здзіўляючую жаноцкасць. У жыцці яна не іграла, была вельмі натуральная — такая славянская руская прыгажуня".

Пасля заканчэння інстытута Зоя Асмалоўская трапіла ў Магілёў, дзе ў час гастроляў зноў сустрэла Юрыя Сідарава. Яна пачала хадзіць на спектаклі і ўбачыла Юрыя ў розных ролях. Вось тады праз акцёрскае майстэрства дзяўчына і разгледзела яго асабістую адметнасць: "У той час адбыўся пералом у маім жыцці. Я ў яго проста закахалася, вось і ўсё, шчыра кажучы".

Зоя і Юрый шмат часу праводзілі побач. Разам з іншымі артыстамі яны каталіся на лодках па Дняпры, купаліся, загаралі.

— Ужо тады мае пачуцці да Зоі выспелі, і неяк у час прагулкі я паспрабаваў прыабняць яе, але Зоя спыніла: "Не трэба, Юра!" Пасля гэтага пачаў адносіцца да яе больш сур`ёзна.

— Я вельмі цяжка з людзьмі нават на "ты" пераходзіла, — удакладняе Зоя Васільеўна.

З кожным днём іх пачуццё адзін да аднаго набывала моц, разам ім было хораша і весела. А аднойчы здарылася такая смешная гісторыя. Юрый Уладзіміравіч згубіў свой нож і пачаў усіх пра яго распытваць. Зоя Васільеўна зацікавілася і спытала, чаму Юрыю патрэбны менавіта гэты нож. А ён адказаў жартам: "Гэты нож вельмі дарагі мне. Ім мой дзядуля з-за рэўнасці зарэзаў маю бабулю". Зоя Васільеўна нічога не сказала, але падумала: "Ну і сямейка! Ну і характар!" А на самай справе было інакш. У той дзень сябры паехалі катацца на дзвюх лодках, і Зоя Васільеўна апынулася ў лодцы з іншым артыстам, вельмі цікавым і прыгожым мужчынам каўказскага паходжання. І Юрый, які ўжо сур`ёзна заляцаўся да Зоі, проста прыраўнаваў яе да гэтага акцёра. Яму, па яго словах, захацелася выглядаць палкім і грозным мужчынам, з якім нельга жартаваць, бо ў ім можа разыграцца кроў яго продкаў, і ён здольны будзе пакараць няверную жанчыну... А нож, што адыграў ролю зброі помсты, аказаўся пластмасавым, такія звычайна бралі на пікнікі.



ГЕРОІ "ГІСТОРЫІ КАХАННЯ" — НАРОДНЫЯ АРТЫСТЫ БЕЛАРУСІ ЗОЯ АСМАЛОЎСКАЯ І ЮРЫЙ СІДАРАЎ. КАЖУЦЬ, ШЧАСЛІВАЕ КАХАННЕ СТВАРАЕ ШЧАСЛІВЫЯ СЕМ`І, А НЕШЧАСЛІВАЕ — ВЯЛІКІЯ ТВОРЫ. НА СЦЭНЕ ЯНЫ ПЕРАЖЫЛІ ШМАТ АДЦЕННЯЎ ГЭТАГА ПАЧУЦЦЯ, АЛЕ РАЗАМ З ТЫМ ЗДОЛЕЛІ ЎВАСОБІЦЬ СВАЮ РЭАЛЬНУЮ РАДАСНУЮ І ТРАГІЧНУЮ ГІСТОРЫЮ.

Першым узрушэннем для маладой сям`і стала з`яўленне першынца-сына і яго раптоўная смерць. Чатыры гады пражылі ў надзеі і чаканні. Потым цуд адбыўся — з`явілася дачушка. Сёння Алена працуе ў Беларускім нацыянальным тэатры, чым бацькі вельмі ганарацца. Юрый Уладзіміравіч з пяшчотай успамінае, як ёй прыдумвалі імя:

"Яна нарадзілася 23 лістапада, я ў той дзень іграў у спектаклі ў ваенным вучылішчы, што за Мінскам. Прыехаў наш адміністратар і паведаміў. "Зоя нарадзіла дачку". І мы ўсе разам паехалі да яе. У гэты дзень першы снег валіў камякамі. Мы павыскоквалі з аўтобуса, купілі шампанскага і пад гэтым снегам тут жа на дарозе пілі за здароўе Зоі і нашай дачкі. А потым усе разам сталі шукаць імя і сышліся на Аленцы — першы снег, снягурка Аленка. Такім чынам, можна сказаць, што гэта была калектыўная творчасць".

Зоі Васільеўне і Юрыю Уладзіміравічу выпала вялікае шчасце — яны пранеслі сваё каханне праз усё жыццё. Вось як яны ўспрымаюць адзін аднаго:

"Юра такі чалавек, ён ніколі не прызнаваўся мне ў каханні, не гаварыў: "Ой, як я цябе люблю! Ты мая каханая!" Але ён гаварыў мне вельмі дарагія словы. Цяпер, праз столькі год, мы зразумелі, наколькі дарагія адзін аднаму. Даражэй няма. Вось так атрымалася — на ўсё жыццё".

"Я вельмі шчаслівы, што знайшоў цябе, Зоя. Дай Бог, каб кожнаму пашанцавала так, як пашанцавала нам".

Здавалася б, вялікія таленты сказалі пра каханне ўсё, але словы кахання ад любімага — гэта самыя важныя словы, якія больш за ўсё хочацца пачуць.

**Да друку падрыхтавала Лавінья АРЭШКА.**

СТОП-КАДР: МОДНІЦЫ



Фота Аляксандра ХІТРОВА.

ЛІЧЫЛКА

— Заяц-месяц,
Дзе ты быў?
— У лесе.
— Што рабіў?
— Лыкі драў.
— Куды клаў?
— Пад калоду.
— Выйдзі вон з карагоду!

ЗАГАДКА

— Цэлы век нашу іх, а ліку не ведаю.

(Валасы).

СКОРАГАВОРКІ

— Ткач тчэ тканіну на хустку Антаніне.

— Тры дрывасекі, тры дрэваколы, на трох дварах дровы колюць.

— Цецеручыха цецеручанятам цеста месіць.

— Я ніколі нікому нічога ніякага, а калі што якое, дык што там такое?

НАТАТКІ З НАГОДЫ

# І ЗНОЎ ЖАЛОБНЫЯ ВЕСТКІ З АЎСТРАЛІІ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

абавязковыя ранішнія праходкі, купанні круглы год у акіяне, балазе там халадоў няма, а зіма — гэта найпрыгажэйшае наша лета з навальніцамі і парнасцю цёплых начэй. І абавязкова: раз у тыдзень на танцы. Тут ім не было раўні, ва ўсякім разе ў "Юбілейным", дзе мы бавілі час, іх заўважылі і вылучылі адразу і воплескамі, і знарок ім падараваным ад музыкаў вальсам.

Так сталася, што пасля з'езда Сазановічы на Беларусь не трапілі, хоць спадзяваліся. Хацелі прывезці сюды і любімага ўнука, у якога да беларуска-нямецкай прымяшалася яшчэ і ірландская кроў. Але любоў да Бацькаўшчыны, нашай, беларускай, праз Міколу перадалася і яму. Настолькі, што пачаў вывучаць "дзедаву" мову і намерыўся напісаць кнігу пра "дзедаву" Беларусь і яго самога. Пра гэта мне паведамляў у сваіх лістах Мікола, і я, само сабой, горача падтрымліваў гэты намер. Ды з лета ён, такі ва ўсім акуратны і дакладны, нават і словам не адказаў на тры мае перасылкі. Роспач і трывога ўсё больш вярэдзілі душу.

І вось цяпер на маю просьбу да Алега Шнэка, які жыве ў Мельбурне, звязацца з Міколам і высветліць гэтае дзіўнае непаразуменне паміж намі, цяжкім каменем зваліўся на мяне той начны факс, дзе рукою сябра было напісана не толькі пра смерць Уладзіміра, але і майго дарагога Міколы, які раптоўна згас, не падужаўшы на гэты раз невылечнай хваробы стагоддзя — белакроўя, і яшчэ на пачатку лета пайшоў, так і не развітаўшыся са мной, у той, будзем спадзявацца, лепшы свет, хоць і гэты, дзякаваць Богу, нас таксама радаваў, духоўна і фізічна наталяў. І я са слязамі на вачах кажу сваё запозненае: "Бывай, мой слаўны і дарагі дружа. Ты быў сапраўдным Чалавекам і для сваёй сям'і, і для ўсіх родных і блізкіх, сапраўдным Інтэлігентам, далікатным і прынцыповым, вялікім працаўніком на гэтай зямлі, як спрадвеку роднай, так і той, далёкай, дзе ты, набыўшы адмысловую адукацыю і вопыт, пакінуў выразны след як будаўнік-дойлід, падарыўшы людзям дзесяткі храмаў, школ і іншых будынкаў. Хай жа тая блаславёная зямля будзе для цябе, як і для твайго сябра Уладзіміра, лёгкай і лагоднай, а душа твая, пераадолеўшы ростань, вяртаецца на нашы наваградскія пагоркі, у той край, дзе ты прамовіў першае беларускае слова і застаўся яму верным да канца дзён сваіх.

Вечнай прасветлай радасці Вашым душам, мае дарагія!"

**Яўген ЛЕЦКА.**



БелТА.

У віцебскім заапарку — папаўненне. На свет з`явілася двое чароўных дзікабразаў.
НА ЗДЫМКУ: ветурач Аляксандр КІСЯЛЁЎ з малышамі дзікабразамі.

ПА СТАРОНКАХ ЧЫРВОНАЙ КНІГІ

# ФАРЭЛЬ РУЧАЁВАЯ

Гэта прыгожая рыба (стронга, альбо фарэль) з бліскуча-белай луской, усыпанай шматлікімі чорнымі і чырвонымі плямкамі. Афарбоўка вар`іруецца ў залежнасці ад колеру вады і грунту, ад корму, асабліва — ад часу года. Да нерасту самцы робяцца больш прыгожымі, а самкі блякнуць.

Стронга распаўсюджана па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Яна аддае перавагу невялікім рэкам з камяністым і пясчаным дном, пераважна тым, дзе шмат крыніц і вада добра насычана кіслародам, даспадобы ёй бурлівае цячэнне.

Найбольш часта сустракаецца ў басейнах рэк Нёмана і Заходняй Дзвіны. Жыве таксама ў Лані, Гайне і іншых рэках. Аднак у апошні час яна знікае з многіх рэчак, якія забруджваюцца.

Фарэль можа вырасці да метра ў даўжыню і важыць больш як дзесяць кілаграмаў. У Беларусі найбольш сустракаецца даўжынёй 20—30 сантыметраў і вагой каля пяцісот грамаў.

Нерасціцца зімой. З надыходам цяпла моладзь пачынае актыўна харчавацца. Спачатку дробнымі насякомымі і чарвякамі, пазней — малюскамі, апалонікамі, дробнай рыбай. Але любімы харч стронгі — насякомыя, якія падаюць на ваду; яна спрытна ловіць іх у паветры, выскокваючы з вады. Асабліва актыўна харчуецца на досвітку і вечарам.

Фарэль — пражэрлівы драпежнік. Яна можа з`ядаць корму да дзвюх трэціх вагі свайго цела.

Гэта рыба вельмі клапоціцца пра сваё патомства. Ікру кладзе ў прадаўгаватую ямку, якую з зайздросным майстэрствам выкопвае хвастом і з дапамогай грудных плаўнікоў. Адразу пасля апладнення ікры самцом самка закопвае ямку, засыпаючы яе каменьчыкамі. Такім чынам яна ахоўвае яе.

У сувязі з памяншэннем колькасці фарэль занесена ў Чырвоную кнігу і ахоўваецца.

**Вячаслаў СТОМА, біёлаг, член Саюза пісьменнікаў.**

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў №49

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 2. Амшанік. 6. Край. 7. Охра. 8. Вывадак. 9. Амга. 11. Стан. 14. Аракс. 16. Абакан. 17. Траста. 19. Асака. 20. Агат. 23. Агра. 25. Рамонак. 27. Рона. 28. Лаванда.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Крым. 2. Айва. 3. Ананас. 4. Кокс. 5. Орша. 9. Андатра. 10. Гагарка. 12. Трыснёг. 13. Насадка. 14. Атава. 15. Сорга. 18. Варона. 21. Грот. 22. Трап. 23. Акра. 24. Рунь.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.** Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.** Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.** Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.** Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.** Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.** Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.** Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.** Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 625 экз.
Зак. 2426.
Падпісана да друку 13.12.1999 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).